


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

6 кастрычніка 2000 года
№ 40 (285)
Цана ў розніцу 90 рублёў

TV плюс

## Навіны рэгіёна

### Новы начальнік міліцыі

МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак асабістаму саставу аддзела ўнутраных спраў быў прадстаўлены новы начальнік. Ім стаў 41–гадовы **Сяргей Кухарчык**.

У органах МУС ён працуе з 1984 года. Апошнім месцам работы Сяргея Кухарчыка была такая ж пасада ў Вілейскім АУС.

За час яго работы Вілейскі РАУС заняў першае месца ў рэспубліцы па паказчыках свайго развіцця.

**Аддзел інфармацыі.**

### GSM і ў Мядзеле

МЯДЗЕЛ. Цяпер двума стандартамі мабільнай сотавай сувязі можна карыстацца ў раёне. Дадаўся GSM-900. Ён больш сучасны, з вялікімі магчымасцямі для карыстальнікаў. Прыёмна-перадавальнае абсталяванне знаходзіцца на даху тургасцініцы "Нарач".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Міс Валожына атрымала тэлевізар

ВАЛОЖЫН. У мінулы чацвер у Доме культуры адбыўся конкурс "Міс Прыгажосць-2000". У ім бралі ўдзел 15 дзяўчат. Па ўмовах конкурсу, узрост павінен быў быць ад 16 да 22 год.

Перамагла дзесяцікласніца СШ №1 **Алеся Наквас**. У падарунак яна атрымала каляровы тэлевізар. Другі прызёр – **Ірына Клішэвіч** – зарабіла пыласос.

Упершыню на падобны конкурс прадавалі білеты. Яны каштавалі 400 рублёў. З-за таго, што зала Дома культуры змяшчае 300 чалавек, многія не змаглі трапіць на шоу.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Самадзейнасць Вітольда Кудыркі

АШМЯНЫ. Кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацый рёна атрымалі пісьмо старшыні райвыканкома **Вітольда Кудыркі**, дзе гаворыцца аб неабходнасці прадастаўлення ў выканком звестак пра мяркуемую колькасць удзельнікаў датэрміновага галасавання – членаў працоўных калектываў:

"В соответствии со статьёй 53 Избирательного кодекса Республики Беларусь с 10 по 14 октября проводится досрочное голосование по выборам депутата палаты представителей Национального собрания РБ... В связи с этим необходимо предоставить... в исполком сведения о предполагаемом участии членов вашего трудового коллектива в досрочном голосовании." Артыкул жа 53 Выбарчага кодэкса на самой справе нічога не гаворыць аб прадастаўленні такога роду звестак.

Загадчыца аддзела інфармацыі выканкома **Валянціна Лузіна** адмаўляецца каменціраваць сітуацыю, заяўляючы карэспандэнту "РГ" аб няведанні пра існаванне пісьма. Рэдакцыі невядома аб існаванні аналагічных распараджэнняў іншых кіраўнікоў вертыкаляў з нашага рэгіёна.

**Мікола ГАЙДУК.**

### Адмена электрычак

10-га і 11-га кастрычніка адмяняюцца электрацягнікі адпраўленнем на Мінск у 9-41, прыбыццём у Маладзечна 11-47

12-га кастрычніка адмяняюцца электрацягнікі адпраўленнем на Мінск у 13-41 і 14-35, прыбыццём у Маладзечна ў 11-47 і 13-49

13-га кастрычніка адмяняюцца электрацягнікі адпраўленнем на Мінск у 10-58 і 13-41, прыбыццём у Маладзечна ў 11-47 і 13-49.

### На адну гадзіну назад

У тры гадзіны ночы ў нядзелю, 29 кастрычніка, час у Беларусі пераводзіцца на адну гадзіну назад. З гэтага моманту мы пачнем жыць па "зімовым" часе.

**Аддзел інфармацыі.**

### Надвор'е на выхадныя

Субота, 7 кастрычніка

**Мінск**
**2 – 3**°С (уначы)
**10 – 11**°С (удзень)

**Вільня**
**5**°С (уначы)
**17**°С (удзень)

Нядзеля, 8 кастрычніка

**Мінск**
**3 – 4**°С (уначы)
**8 – 9**°С (удзень)

**Вільня**
**4**°С (уначы)
**16**°С (удзень)

# Інфарматыку – па плакатах

## Навучэнцы медвучылішча бачаць камп'ютэры толькі на малюнках

**МАЛАДЗЕЧНА. У медвучылішчы 180 чалавек вывучае прыкладную інфарматыку па плакатах: тут няма камп'ютэрнага класа.**

– Міністэрства адукацыі вырашыла, што ў медвучылішчы павінны вывучаць інфарматыку, і склала праграму на 60 гадзін, – гаворыць дырэктар медвучылішча **Уладзімір Апаленіс**, – а камп'ютэраў няма.

Адзіны, які толькі што заарандавалі ў палітэхнікуме, пакуль не ўстанавілі. Летась абыходзіліся тым, што арандавалі "Карветы" у ПТВ-87.

Для патрэб вучылішча хапіла б 7 камп'ютэраў. Яно іх заказала ў мінулым лістападзе. Праблема ў тым, што Упраўленне аховы здароўя Мінскага аблвыканкома, якое фінансуе вучылішча, не выдзеліла грошы. Таму выкручваюцца сваімі сіламі. Цяпер ёсць варыянт з Цэнтрам пазашкольнай работы, але на якіх умовах будзе праходзіць арэнда, трэба вырашаць.

У верасні большая частка навучэнцаў ездзіла на сельгасработы. Астатнім чытаюць тэорыю па інфарматыцы.

– Адзіная крыніца даходаў – плата 20 працэнтаў студэнтаў за навучанне. З бюджэту атрымліваем стыпендыю і зарплату, – гаворыць дырэктар. – Акрамя камп'ютэрнага класа, у вучылішчы няма інтэрната і спартыўнай залы. Патрэба вучылішча ў інтэрнаце – каля 90 месцаў. Кожны год зноў трэба ісці на паклон. Нашы студэнты рассяляюцца па ўсім горадзе. Але гэты працэс займае некалькі месяцаў. Кожную восень заводзіцца журнал, у якім жадаючыя здаць пакой запісваюць свае каардынаты.



Фота Юрыя Карпіцкага

**Навучэнка групы МС-23 Вольга Шалкоўская паказвае клавішу Shift на макеце клавіятуры.**

Самі ўрокі інфарматыкі праходзяць наступным чынам: выкладчык чытае лекцыі і потым пытаецца па пройдзеных тэмах. З наглядных дапаможнікаў ёсць плакат, на якім выява клавіятуры і дыскеты. Акрамя гэтага, налічваецца некалькі плакатаў, дзе намаляваныя камп'ютэры і прыстасаванні да іх.

Навучэнцы атрымліваюць за свае веды па інфарматыцы адзнаку ў дыплом. Але ці грунтоўныя гэтыя веды без практычнага навучання?

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ВЫБАРЫ–2000

# Сем пытанняў для кандыдатаў

Рэдакцыя «РГ» задала ў пісьмовай форме 7 пытанняў кожнаму з кандыдатаў у нашым рэгіёне.

**1. Ці будзеце вы галасаваць за ўвядзенне прыватнай уласнасці на зямлю?**

**2. Якія меры трэба прыняць, каб павялічыць занятасць насельніцтва?**

**3. Што патрэбна зрабіць, каб спыніць дэмаграфічны спад?**

**4. Ці лічыце вы дзеючы парламент "кішэнным"?**

**5. Ці патрэбна аб'ядноўваць Беларусь і Расію?**

**6. Сума вашага гадавога даходу.**

**7. Тры асноўныя тэзісы вашай перадвыбарнай праграмы.**

Змяшчаем адказы, якія мы атрымалі.

## Вячаслаў Кебіч,

**Акруга №87 (Маладзечанскі і Валожынскі раёны)**

1. Я за ўсе формы ўласнасці, у тым ліку і за прыватную ўласнасць на зямлю, але без куплі-продажу. Я за разумную зямельную рэформу, каб даць кожнаму жадаючаму апрацоўваць зямлю, каб на сяле свабодна развіваліся ўсе формы гаспадарання.

2. Распрацаваць і прыняць эканамічна абаснаваную праграму занятасці насельніцтва. Даць магчымасць эфектыўна развівацца ўсім формам уласнасці, прадпрымальніцтва, прадаставіць прававую гарантыю ўласнікам.

3. Павінен быць высокі жыццёвы ўзровень і дастатак сям'і, развітая сістэма аховы здароўя і яе даступнасць, сістэма ільгот і падтрымкі маладым сем'ям, жанчынам і дзецям.

4. Я не лічу дзеючы парламент "кішэнным".

5. Калі я быў старшынёй Савета Міністраў Беларусі, я быў ініцыятарам Эканамічнага Саюза Беларусі і Расіі. І сёння застаюся прыхільнікам гэтай ідэі. Я за стварэнне і эфектыўнае функцыянаванне раўнапраўнага Саюза Беларусі і Расіі з захаваннем суверэнітэту Беларусі. Наконт палітычнага саюза павінныя даць адказ непасрэдна народы Беларусі і Расіі.

6. Пенсія за асабістыя заслугі. Яе памер складае прыкладна 125 тысяч рублёў у месяц.

7. – Беларусь адродзіцца і зойме дастойнае месца ў сусветным супольніцтве.

– Народ павінен жыць дастойна, без страха за будучае, ганарыцца сабой і сваёй Радзімай! Падтрымка інтэлігенцыі, падняцце прэстыжу працы настаўнікаў, урачоў, работнікаў культуры і сацыяльнай сферы.

– У дзяржаве не павінна быць ні галодных, ні бяздомных. Падтрымка моладзі, выдзяленне ім крэдытаў, рашэнне жыллёвых праблем.

## Павел Бурко,

**акруга №61 (Смаргонскі і Астравецкі раёны)**



1. Лічу, што зямлю трэба перадаць ва ўласнасць тым, хто на ёй працуе.

2. Толькі пабудова эфектыўнай эканамічнай мадэлі дасць магчымасць тым, хто працуе, забяспечваць сваю сям'ю. Вырашэнне праблем у эканоміцы – перадумова вырашэння ўсіх астатніх праблем.

3. Дэмаграфічны спад – складаная праблема нават для эканамічна развітых краін Еўропы. Навука дэмаграфія на цяперашні час не дае адказу на гэтае пытанне.

4. Так, таму што фактычна парушаны прынцып раздзялення ўлад.

5. Неабходна замацоўваць добрасуседскія стасункі, супрацоўнічаць, не абмяжоўваючы свае інтарэсы і інтарэсы суседа. Але нельга аддаць Расіі ўсе рычагі кіравання дзяржавай. Трэба праводзіць эканамічную палітыку, якая адказвае патрабаванням цяперашняга становішча эканомікі ў Беларусі. Наша краіна павінна быць незалежнай дзяржавай.

6. За 1999 год сумарны гадавы даход 180 тысяч рублёў.

7. – Пад'ём эканомікі;

– паляпшэнне жыццёвага ўзроўню насельніцтва;

– рэфармаванне фінансавай, падаткова-бюджэтнай, крэдытна-грашовай сістэм.

# Тут вучаць мастацтву

**МАЛАДЗЕЧНА. Пачаць размову з дырэктарам маладзечанскай школы мастацтваў Людмілай Васілевіч удалося ў яе кабінеце, упрыгожаным дзіцячымі малюнкамі і вырабамі з саломкі. Разглядаючы іх, захацеў даведацца пра вытокі гэтае патрэбнае справы.**

– Гісторыя школы пачынаецца з другой паловы 80-х (1987 год), калі дырэктар музычнага вучылішча **Рыгор Сарока** прапанаваў адкрыць класы з мастацкім ухілам. Унеслі змены ў праект. З цягам часу адкрыліся 4 аддзяленні: музычна-харавое, харэаграфічнае, тэатральнае і мастацкае. Спачатку ўзнікалі праблемы з узроўнем выхаванасці дзяцей, бо, хоць заняткі мастацтвамі і больш развіваюць здольнасці, даюць больш свабоды ў паводзінах. І трэба вучыць дзяцей, як яе выкарыстоўваць, – гаворыць Л. Васілевіч.

**– Сярод апошніх мерапрыемстваў гараджане запомнілі "Маладзечанскі кірмаш–2000". Як школа ўдзельнічала ў ім?**

– Была праведзеная выстаўка работ I выпуску мастацкага аддзялення: вырабы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, вырабы з саломкі, выцінанкі. Харэаграфічнае аддзяленне не брала ўдзел: трэба даць дзецям летам адпачыць.

**– Як уладкоўваюцца вашыя выпускнікі?**

– З першых дзён навучання мы арыентуем вучняў на навучанне. У 1999 годзе паступілі 78% выпускнікоў, у 1998 – 72%. Таму можна сказаць, што амаль усе нашыя вучні маюць патрэбу вучыцца далей – гэтаму іх вучыць школа.

**– Вас добра ведаюць у рэгіёне. Раскажыце, калі ласка, пра міжнародныя сувязі.**

– У 2002 годзе споўніцца 10 год сувязям з музычнай гімназіяй імя Тэадора Хейса (Германія). Ёсць сувязі з духавым аркестам г. Штэрнберга (Чэхаславакія). Нашы вучні бралі ўдзел у конкурсе акардэаністаў у Пётркуў-Трыбунальскі (Польшча), а мастакі – у Міжнародным конкурсе дзіцячага малюнка ў Японіі (5 дыпломаў) і конкурсе "3000 год Іерусаліму" у Ізраілі (8 дыпломаў).


Фота з архіва «РГ».
**Падчас індывідуальных заняткаў музыкай.**

**– Што тычыцца будучага: у чым яно для вас?**

– Галоўнае, каб бліжэйшыя планы здзейсніліся. Бо менавіта на гэта накіраваная наша праца.

**– Што пажадаеце сваім выпускнікам?**

Каб на іх шляху сустракаліся такія людзі, якія былі з імі ў школе мастацтваў і дома. Каб яны былі ўпэўненыя, што добрыя людзі заўсёды побач, трэба толькі іх разглядзець.

А гэта рабіць у школе мастацтваў умеюць. Нездарма дэвіз школы складаецца з выказвання Дэні Дзідро: "Геніі падаюць з неба, але залежыць ад нас – пападуць яны ў камору ці ў палац".

Калі я вяртаўся са школы мастацтваў, насустрач мне беглі маленькія геніі, якія толькі пачынаюць свой шлях да палаца.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

# Бібліятэкары – дзецям

**МАЛАДЗЕЧНА. З пачаткам новага навучальнага года актывізавалі сваю дзейнасць маладзечанскія бібліятэкары.**

У прыватнасці, у верасні быў праведзены тыдзень інфармацыі "Даніна новай цікавай кнізе". Відаць, самае значнае мерапрыемства ў межах гэтага тыдня – выстаўка кніг з фондаў бібліятэкі, экспазіцыя якой разгорнутая ў памяшканні "Салона муз", што ёсць у бібліятэцы. Сярод кніг – рэдкія, напрыклад, кніга твораў рускага пісьменніка Карамзіна, выдадзеная ў 1800 годзе. Спадчына нашага першадрукара Францыска Скарыны прадстаўленая факсімільным выданнем аддрукаванай ім Бібліі. Шмат кніг пра жывёл, па гісторыі мастацтва. Літаратура разлічаная на дзяцей, якія і сталі наведвальнікамі выстаўкі.

У якасці экскурсаводаў працавалі супрацоўнікі бібліятэкі. Не абмяжоўваліся дзяжурнымі каментарыямі, а расказвалі, напрыклад, пра асаблівасці паперы, на якой аддрукавана тое альбо іншае выданне, звярталі ўвагу дзяцей на якасць друку. Такая інфармацыя не толькі пашырае кругагляд дзяцей, але і выхоўвае іх павагу да кнігі і да працы людзей, якія гэтую кнігу падрыхтавалі і адрукавалі.

Па інфармацыі дырэктара Цэнтральнай бібліятэкі **Ніны Артышэвіч**, адным з наведвальнікаў выстаўкі стаў праваслаўны святар **айцец Іаан**. Ён не толькі наведаў выстаўку, але і правёў для дзяцей гутарку "І слаўце імя мае мовай сваёй". Айцец Іаан з'яўляецца прыхільнікам беларускай мовы, добра ведае яе і ахвотна ёю карыстаецца.

Айцец Іаан належыць да ліку тых, хто лічыць, што праваслаўныя святары не праводзяць богаслужэнне па–беларуску не ў апошнюю чаргу з–за таго, што няма перакладаў царкоўных кніг са стараславянскай мовы на беларускую. Акрамя таго, прыхільнікі беларушчыны з ліку духавенства не адчуваюць дапамогі з боку беларускай інтэлігенцыі.

А яшчэ раней быў распачаты агляд кніг "Сівых стагоддзяў рэха", падрыхтаваны на аснове матэрыялаў даведачна-бібліяграфічнага аддзела і прысвечаны дзейнасці нашых першадрукароў Францыска Скарыны, Сымона Буднага ды іншых. Удзельнічалі супрацоўнікі Цэнтральнай бібліятэкі і ў мерапрыемстве "Свята пісьменнасці – свята народнае", якое адбылося 3 верасня ў бібліятэцы "Верасок".

**Алег АСІПОВІЧ.**

# Як «шостая» стала ліцэем

**МАЛАДЗЕЧНА. ... І наогул, я лічу, што ліцэй – гэта правільна, асабліва калі гэта ліцэй пры БДУ. Гэта я пра школу №6, дзе з дваццаць першага верасня пачалі сваё існаванне ліцэйскія класы.**

## Прадмова

Тры гады таму ў Амерыцы праходзіў семінар "Падрыхтоўка рабочых і працуючых у XXI стагоддзі". Беларусь на ім прадстаўлялі два чалавекі: дырэктар СШ №6 **Ірына Байтаз** і дырэктар ліцэя пры БДУ **Генадзь Пальчык**. Там яны і пазнаёміліся. Вынікам іх супрацоўніцтва на семінары сталі моцнае сяброўства і трывалыя дзелавыя сувязі.

## А можа, паспрабаваць?

Ужо адразу пасля Амерыкі Генадзь Уладзіміравіч агітаваў Ірыну Расціславаўну стварыць на школьнай базе ліцэйскія класы. Але ведачючы, што вучнямі ліцэя з'яўляецца эліта, Ірына Расціславаўна пабаялася зрабіць такі адказны крок. Тым больш, што ў школе ўжо пачаліся змены, а дакладней, распрацоўка профільных класаў. У гарадскім аддзеле адукацыі да ідэі профкласаў паставіліся вельмі сур'ёзна і пайшлі насустрач. У выніку з мінулага года старэйшыя класы "шостай" – профільныя. Але, у гэты ж час, задумка супрацоўніцтва ліцэя і школы не давала спакою яе дырэктару.

## Ліцэй!

Дваццаць першага верасня быў падпісаны дагавор аб супрацоўніцтве паміж шостай школай і ліцэем пры БДУ. Падпісанне дагавора суправаджалася цырымоніяй пасвячэння ў ліцэісты, выступленнем школьнай "вярхушкі" і самога цырымоніймайстра – Г. Пальчыка. Выступалі і самі ліцэісты, якія яшчэ нядаўна былі простымі вучнямі. Фіналам цырымоніі стала лірычна-аптымістычная песня зводнага хору дзяцей-ліцэістаў.

## А што ім гэта дае?

Так! Ліцэісты атрымліваюць пэўную колькасць пераваг перад іншымі вучнямі. Па-першае, гэта дае магчымасць карыстацца базай дадзеных ліцэя, гэта значыць, вялікай ліцэйскай бібліятэкай, камп'ютэрнай інфармацыяй ліцэя. Ліцэісты атрымаюць магчымасць слухаць лекцыі настаўнікаў ліцэя, якія будуць прыязджаць у школу. Ці ж гэта не залог якасных ведаў? Па-другое, ліцэісты маюць права быць удзельнікамі розных семінараў, канферэнцый, увогуле, мерапрыемстваў, якія праводзіць ліцэй.

## І гэта яшчэ не ўсё!

Ірына Расціславаўна лічыць, што новаўвядзенняў дастаткова: апрабаванне дзесяцібальнай сістэмы ацэнкі ведаў, трыместраў, профільныя і ліцэйскія класы. Але! Са слоў самой Ірыны Расціславаўны стала вядома, што ёсць вельмі цікавы план узяць школу ў якасці эксперыментальнай пляцоўкі, каб паспрабаваць якасна новую навучальную сістэму.

Вось такая яна, шостая школа, – непрадказальна–развіццёвая.

**Сяргей АЎСЯНІК,**
**вучань 11 «А» класа СШ №6 Маладзечна.**

### Кінатэатр «Радзіма»

З 10 па 15 кастрычніка 2000 года ў кінатэатры "Радзіма" – **прэм'ера самага грандыёзнага і супервідовішчнага амерыканскага фільма рэжысёра Рыдлі Скота "ГЛАДЫЯТАР"**.

Генерал, прададзены ў рабства, робіцца гладыятарам, якога нельга перамагчы, а непераможаны гладыятар зноў выратоўвае Рымскую імперыю. У ролях: Расел Кроу, Рычард Харыс, Олівер Рыд.

Сеансы: 13-00, 15-40, 18-30, 21-10. Цана білета 800 рублёў за 2 серыі.

Білеты прадаюцца папярэдне ў касе кінатэатра за наяўны і безнаяўны разлік. Тэл. для даведак: **71592, 70630, 71702**.

***Прыходзьце, не пашкадуеце!***

6–8 **"Закінутыя ў космасе"**, ЗША, фантастыка 13-00, 15-00, 19-10
**"Тут на зямлі"**, ЗША, меладрама 17-00, 21-00
10–15 "Гладыятар", прэм'ера, ЗША, 2 серыі, шырокаэкранны 13-00, 15-40, 18-30, 21-10.

**Для дзяцей**

8 – **"Геркулес"** 11-00

Кожную пятніцу, суботу і нядзелю – **дыскатэка**. Для школьнікаў – 17–00, для моладзі – 20–00.

У кінатэатры працуе **бар, камп'ютэрныя гульні**.

■ ВЫБАРЫ–2000

# Сем пытанняў для кандыдатаў

Рэдакцыя «РГ» задала ў пісьмовай форме 7 пытанняў кожнаму з кандыдатаў у нашым рэгіёне.

**1. Ці будзеце вы галасаваць за ўвядзенне прыватнай уласнасці на зямлю?**
**2. Якія меры трэба прыняць, каб павялічыць занятасць насельніцтва?**
**3. Што патрэбна зрабіць, каб спыніць дэмаграфічны спад?**
**4. Ці лічыце вы дзеючы парламент "кішэнным"?**
**5. Ці патрэбна аб'ядноўваць Беларусь і Расію?**
**6. Сума вашага гадавога даходу.**
**7. Тры асноўныя тэзісы вашай перадвыбарнай праграмы.**

Змяшчаем адказы, якія мы атрымалі.

## Ірына Вештард,

**акруга №61 (Смаргонскі і Астравецкі раёны)**



1. Буду галасаваць за баланс паміж усімі формамі ўласнасці на зямлю, які забяспечыць пад'ём сельскагаспадарчай вытворчасці.

2. Неабходна змяніць законы, каб у нашу краіну прыйшлі інвестыцыі. Прыспеў час знізіць падаткі, стварыць эканамічную сістэму, у якой ініцыятыўныя людзі змогуць пачаць сваю справу; устанавіць роўныя умовы для функцыянавання ўсіх формаў уласнасці.

3. Неабходна ліквідаваць жабрацтва, да якога давяла сённяшняя сістэма кіравання дзяржавай. Трэба забяспечыць надзейную абарону маладой сям'і, якая дазволіла б ёй выхоўваць дзяцей.

4. Пры дзеючай Канстытуцыі са змяненнямі, прынятымі на Рэферэндуме 1996 года, ён іншым быць не можа.

5. Я бачу Беларусь і Расію ў адзінай сям'і еўрапейскіх краін у якасці раўнапраўных незалежных дзяржаў.

6. Дачы, аўтамашыны, грашовых зберажэнняў, як і бягучых даходаў, на жаль, не маю, бо з'яўляюся беспрацоўнай.

7. – Кожнаму, хто можа арганізаваць уласную вытворчасць, абавязкова даць такую магчымасць, таму, хто хоча працаваць па найме, даць магчымасць працаваць з годным заробткам;

– усім, каму неабходная дапамога, забяспечыць адрасную падтрымку. Трэба весці барацьбу не за ўладу, а за прыняцце мудрых рашэнняў (гэтую задачу якраз лепш выраша́ць дэпутат-жанчына);

– неабходна прыняць законы, якія забяспечаць абарону гонару і годнасці простага чалавека як пры зваротах да чыноўнікаў, так і на працы.

## Іосіф Маціюн,

**акруга №79 (Вілейскі і Мядзельскі раёны)**



1. Не буду. Зямля павінна быць у выключнай маёмасці дзяржавы. У прыватную ўласнасць дапушчальна прадаваць ці перадаваць прысядзібныя ўчасткі.

2. Трэба запусціць на поўную моц вытворчасць, праводзіць палітыку падтрымкі айчыннага вытворцы. У выніку шэрагу эканамічных мер атрымаем, што айчынныя тавары будуць пакуль ніжэйшай якасці, але таннейшыя. Гэта дазволіць павялічыць рост вытворчасці і колькасці рабочых месцаў.

Пры рынначнай эканоміцы беспрацоўе перамагчы немагчыма, бо галоўная ўмова рынку – рынак рабочай сілы. Поўную занятасць можа забяспечыць толькі планавая эканоміка.

3. Лякарства ў моцным эканамічным становішчы. Першачарговыя дзеянні такія:

– пры павышэнні зарплаты замарозіць цэны на тавары першай неабходнасці, дзіцячыя тавары і лекі (хаця б айчынныя);

– змагацца з наркаманіяй, алкагалізмам і курэннем тытуню;

– знайсці магчымасць будаваць маласямейныя інтэрнаты і прадастаўляць маладажонам без права прыватызацыі;

– вярнуцца да бясплатнага медабслугоўвання;

– у большай ступені фінансаваць сістэму адукацыі.

4. Так, калі не сказаць больш. За апошнія 5 год, дзякуючы гэтаму парламенту, у руках прэзідэнта аказаліся ўсе паўнамоцтвы. А сітуацыя ў краіне ўсё горш і горш. Таму я і іду на выбары. У кішэні ні ў каго сядзець не збіраюся.

5. Стратэгічным партнёрам можа быць толькі Расія. Толькі тады мы зможам заняць дастойнае месца ў Еўропе. Але цяпер за адзіную дзяржаву галасаваць я не стаў бы. Гэта цяжкае пытанне, і трэба бачыць канкрэтныя ўмовы дагавора.

6. Сума гадавога даходу за 1999 год 240 тысяч рублёў.

7. – Народаўладдзе з незалежнымі галінамі ўлады;

– сацыяльная справядлівасць, заснаваная на роўнасці ўсіх перад законам;

– духоўная адказнасць кожнага за лёс сваёй краіны.

## Скончылася «бульба» у навучэнцаў палітэхнікума

**МАЛАДЗЕЧНА. Нарэшце навучэнцы вярнуліся з "бульбы". Некаторыя з іх працавалі ў навучальнай установе, але значная частка дапамагала калгасам. У колькасці 10, 5 і 2 груп адпаведна. Працавалі ў 2 змены. На палеткі і дадому адвозіў калгасны транспарт.**

Заработак аднаго навучэнца вагаўся ад 800 да 1400 рублёў у дзень. У залежнасці ад віду работы. Дарэчы, стыпендыя ў тэхнікуме – 5000 рублёў, таму праца ў калгасе нядрэнна папоўніла бюджэт навучэнцаў.

Дырэктар палітэхнікама **Мікалай Жгун** задаволены працай сваіх выхаванцаў і арганізацыяй сельскагаспадарчых работ вышэйназванымі калгасамі. Але ў наступным годзе хоча дамовіцца з гаспадаркамі, у якіх будуць працаваць навучэнцы, пра гарачае харчаванне. Страты невялікія, а людзям прыемна.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

## Станказавод абяцаў выйсці на нуль

**МАЛАДЗЕЧНА. Рэнтабельнасць вытворчасці на станказаводзе з пачатку года складае мінус 26 працэнтаў, страты за 8 месяцаў – 34,6 мільёна рублёў.**

Разам з тым, першы намеснік старшыні гарвыканкома **Яфім Ідэльчык** зазначыў, што планавыя паказчыкі развіцця завода, акрамя выпуску тавараў народнага спажывання, выконваюцца.

Стабільнай рабоце прадпрыемства замінаюць запазычанасці завода крэдыторам – каля 200 мільёнаў рублёў, нізкі паказчык сярэдняй заработнай платы – за 8 месяцаў каля 36 тысяч рублёў. 30% ад выраблёнай прадукцыі знаходзіцца на складах.

Работу станказавода разглядалі на пасяджэнні выканкома ў аўторак. Дырэктар прадпрыемства **Уладзімір Руцько** зазначыў, што ў апошнія месяцы павялічылася колькасць працуючых, расце зарплата, экспарт тавараў. Да новага года дырэктар паабяцаў выйсці на нулявую рэнтабельнасць.

Праграму канкрэтных дзеянняў па дасягненні планавых паказчыкаў кіраўніцтва завода абавязанае прадаставіць у гарвыканком да 10 кастрычніка.

**Аддзел інфармацыі.**

# Як у нас з радыяцыяй?

**Цяпер небяспека знешняга абпраменьвання, натуральна, зменшылася. Але, па-ранейшым, існуе пагроза ўнутранага абпраменьвання арганізма чалавека праз прадукты харчавання і, перш за ўсё, тыя, якія сабраныя ў лясах і не прайшлі радыелагічнага кантролю.**

Даследаванні лабараторыі райЦГіЭ пацвярджаюць, што ўсе так званыя дары лесу неабходна падвяргаць праверцы. За перыяд з 1 жніўня па 25 верасня праведзеная 131 проба грыбоў і ў 33-х узорах устаноўлена перавышэнне дапушчальных узроўняў, а гэта больш за 24%.

У трох пробах сушаных грыбоў устаноўлена ўтрыманне радыенуклідаў цэзію-137 ад 6140 Бк/кг да 9999 Бк/кг, што ў некалькі разоў вышэй за дапушчальныя ўзроўні.

Геаграфія збору грыбоў, якія аказаліся забруджанымі радыенуклідамі цэзію-137, вельмі шырокая: Маладзечанскі, Вілейскі, Мядзельскі, Смаргонскі раёны. Ёсць грыбы, дастаўленыя з раёнаў Гомельскай вобласці.

Перавышэнні выяўляюцца і радыелагічным пастом у лабараторыі ветэрынарна-санітарнай экспертызы на рынку, прычым, узроўні забруджвання высокія.

Спадзяемся, што прыведзеныя лічбы павінны пераканаць усіх разважных людзей у тым, што ўсё гэта адмоўна ўплывае на здароўе чалавека.

Не можа не выклікаць трывогу і тое становішча, якое склалася ў горадзе па арганізацыі гандлю на мінірынках, дзе адсутнічае элементарны кантроль, не кажучы ўжо аб праверцы якасці прадуктаў.

Тут жа рэалізуюцца прадукты, продаж якіх прыватнымі асобамі забаронены правіламі гандлю на рынку РБ.

Вельмі трывожны факт, які можа выклікаць сур'ёзныя наступствы, калі адпаведныя органы і ўлада не прымуць меры па навядзенні патрэбнага парадку ў дадзеным пытанні.

**Маладзечанскі Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі.**

■ ЭКАНОМІКА

## У Беларусі цэны на нафтапрадукты вышэйшыя, чым у суседніх краінах СНД

Цэны на нафтапрадукты ў Беларусі, пасля чарговага павышэння 26 верасня, пераўзышлі аналагічныя паказчыкі ў суседніх краінах СНД, з якімі рэспубліка мае цесныя эканамічныя сувязі. Апошняе 10% падаражэнне – чацвертае ў верасні (дагэтуль цэны павышаліся 1, 7 і 16 верасня). Такім чынам, цяпер разбежка ў цэнах на нафтапрадукты ў Беларусі і суседніх з ёю дзяржавах выглядае наступным чынам (у доларавым эквіваленце).

1 літр аўтабензіну А-76: у Расіі — 0,20; ва Украіне — 0,29; Малдове — 0,41; Беларусі — 0,39;

аўтабензін А-92: Расія — 0,24; Украіна — 0,31; Малдова — 0,43; Беларусь — 0,49;

аўтабензін А-95: Расія — 0,28; Украіна — 0,34; Малдова — 0,44; Беларусь — 0,56;

аўтабензін А-98: Расія — 0,38; Украіна — 0,40; Малдова — 0,44; Беларусь — 0,56;

дызельнае паліва: Расія — 0,21; Украіна — 0,27; Малдова — 0,32; Беларусь — 0,36 долара ЗША.

**Яўген ГРУБІЧ, БелаПАН.**




## Павялічыўся збор за права гандлю

**МАЛАДЗЕЧНА. З серады павялічыўся збор за права гандлю па-за межамі рынкаў. Новыя стаўкі такія: для юрыдычных асоб – 1200 рублёў, для фізічных – 100–800 рублёў, у залежнасці ад вагі тавару.**

Гэтыя стаўкі бяруцца за дзень гандлю. Загадчык фінансавага аддзела гарвыканкома **Паліна Вашкевіч** патлумачыла новыя цэны павышэннем мінімальнай заработнай платы і цэнаў на тавары і паслугі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Гавіёце добра ў Нарачы

**МЯДЗЕЛ. У школе вёскі Нарач было дзве кабылы: Марта і Альфа. Апошняя нарадзіла жарабя і загінула. Сірату назвалі Гавіётай, як гераіню любімага тэлесерыяла.**

Школьны дворнік **Юрый Гайдукевіч** узяўся даглядаць кабылку, насіў ёй малако ад сваёй каровы, падкормліваў. Цяпер Гавіёта – школьная любіміца. Дзеці яе заўсёды частуюць, а яна ўжо так да іх прызвычаілася, што гатовая ў школу забегчы. Ходзіць Гавіёта і па талаках – бульбу капаць. Зразумела, яшчэ не працуе, так, бегае за Мартай. Але калі людзі сядаюць есці, яна тут як тут: падыходзіць да кожнага, маўляў, частуйце. Есць усё, што ні даюць! Праўда, Гавіётай заставацца кабылцы засталося нядоўга, збіраюцца даць ёй іншае імя.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Знімуць за даўгі?

**МАЛАДЗЕЧНА. 6 з 600 суб'ектаў гаспадарання не выплацілі да 1 кастрычніка заработную плату за жнівень.**

Найбуйнейшым даўжніком стала ААТ "Спецыялізаванае будаўнічае мантажнае прадпрыемства". Доўг па заработнай плаце там складае 1,858 мільёна рублёў.

Маладзечанскі гарвыканком рэкамендаваў вызваліць ад займаемай пасады дырэктара **Леаніда Лаўрановіча**.

Сёння савет дырэктараў павінен праінфармаваць гарвыканком аб прынятым рашэнні.

**Аддзел інфармацыі.**

■ ДНІ

6 кастрычніка – **255 год з дня нараджэння Францішка Смуглевіча** (1745–1807), беларускага жывапісца і графіка.
**50 год з дня нараджэння** (1950) **Ю. Траяна**, беларускага артыста балета, народнага артыста Беларусі.
7 кастрычніка – **235 год з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага** (1765–1833), дзяржаўнага і грамадска–палітычнага дзеяча Беларусі, Літвы і Польшчы.
10 кастрычніка – **60 год з дня нараджэння** (1940) **К. Тарасава**, беларускага празаіка, публіцыста.
12 кастрычніка – **135 год з дня нараджэння М. Анцава** (1865–1945), беларускага кампазітара, харавога дырыжора і педагога.

## Курсы валют НБ РБ

| | 28 верасня | 5 кастрычніка |
|---|---|---|
| Долар | 1032,00 руб. | **1040,00** руб. |
| Нямецкая марка | 467,63 руб. | **465,41** руб. |
| Літ | 257,94 руб. | **259,94** руб. |
| Расійскі рубель | 37,10 руб. | **37,40** руб. |
| Злоты | 226,24 руб. | **228,75** руб. |
| ЕЎРА | 914,61 руб. | **910,26** руб. |
| **«Вулічныя» курсы ў Маладзечне** | | |
| Долар | 1040 – 1050 руб. | **1050 – 1060** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 27.09 | 04.10 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1450 | 1450 |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 4980 | 4710 |
| Сасіскі, 1 кг | 1575 | 1580 |
| Селядзец, 1 кг | 950 | 950 |
| Рыс, 1 кг | 350 | 350 |
| Грэчка, 1 кг | 560 | 530 |
| Цукар, 1 кг | 475 | 480 |
| Алей, 1 л | 740 | 740 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 380 | 490 |
| Маянэз, 250 г | 150 | 160 |
| Кава "Пеле", 100 г | 950 | 950 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 310 | 310 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 350 | 340 |
| Лімоны, 1 кг | 930 | 970 |
| Апельсіны, 1 кг | 600 | 680 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 220 | 200 |
| Капуста, 1 кг | 100 | 100 |
| Кавун, 1 кг | 160 | 150 |
| Дыня, 1 кг | 450 | 500 |
| Вінаград, 1 кг | 900 | 850 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 700 | 700 |
| Масла, 1 кг | 1700 | 1700 |
| Тварог, 1 кг | 600 | 600 |
| Малако, 1,5 л | 250 | 250 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 600 | 650 |
| Бульба, вялікае вядро | 450 | 500 |
| Морква, 1 кг | 150 | 130 |
| Памідоры, 1 кг | 420 | 450 |
| Яблыкі, 1 кг | 200 | 150 |
| Грушы, 1 кг | 250 | 200 |

## Маладзечанцы першыя рыхтуюць адукаванага спажыўца

МАЛАДЗЕЧНА. 21 з 22 навучальных устаноў горада ўвялі ў сваю праграму пытанні па спажывецкіх ведах. Не далучылася толькі СШ №9: кіраўніцтва школы шукае магчымасці для дадатковых вучэбных гадзін.

Вывучаюць новую дысцыпліну па-рознаму: як факультатыў, асобны прадмет ці "у дадатак" да іншага эканамічнага прадмета. "Ахвярамі" сталі вучні 8–11 класаў (у залежнасці ад школы). Курс разлічаны на 68 гадзін, тэорыі і практыкі пароўну.

Другім па ліку горадам у краіне, дзе будуць вывучаць падобны прадмет, будзе Мінск. З новага года ў 9 школах будуць праводзіцца факультатыўныя заняткі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Начальства працуе з 9-ці

Савет Міністраў прыняў пастанову аб змяненні рэжыму рабочага часу ў рэспубліканскіх органах дзяржаўнага кіравання.

Для работнікаў апарату міністэрстваў, іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання з 2 кастрычніка г. г. устанаўліваецца наступны рэжым: пачатак работы – 9 гадзін, перапынак для адпачынку і харчавання – з 13 да 14 гадзін, заканчэнне работы – 18 гадзін, выхадныя дні – субота і нядзеля. Страчвае сілу пункт 1 Пастановы Саўміна ад 4 кастрычніка 1999 г.

**Аддзел інфармацыі.**



Сяргей Гудовіч не страчвае аптымізму.

Фота Юрыя Карпіцкага.

## Сяргей Гудовіч: «Я таксама хачу жыць!»

**МАЛАДЗЕЧНА. 1 верасня зарэгістравана грамадскае аб'яднанне "Спартыўны клуб "Прамень". Мэтай клуба з'яўляецца арганізацыя культурна-аздараўленчай і спартыўнай работы з інвалідамі, у якіх парушэнні апорна-рухальнага апарата, і прапаганда здаровага ладу жыцця.**

Сам Сяргей 9 год прыкаваны да каляскі. Нягледзячы на гэта, ён захоўвае аптымізм, не курыць і не ўжывае спіртное.

Гаворыць, што інваліды таксама маюць права на жыццё. Толькі ў горадзе налічваецца 30–40 чалавек такіх, як Сяргей. 98 працэнтаў з іх співаецца, бо адзінота – гэта бязлітасная рэч.

На пытанне, чаму ён выбраў менавіта такое імя для клуба, Сяргей адказаў: павінна ж у нашым горадзе-сонцы хоць нешта свяціць!

Гэты мужны чалавек заклікае ўсіх інвалідаў аб'яднацца, бо разам лягчэй будзе выкараскацца з псіхалагічнай ямы. Сёлета "Прамень" плануе арганізаваць спаборніцтвы па армрэстлінгу, кулявой стральбе і шашках. На наступны год запланаваны прабег на калясках да Эслінгена. Сяргей заклікае сур'ёзна рыхтавацца тых, хто жадае ўзяць удзел у гэтым прабегу.

Па ўсіх пытаннях працы аб'яднання "Прамень" звяртайцеся па тэлефоне ў Маладзечне 7-77-64.

На заканчэнне Сяргей выказаў падзяку **Яфіму Ідэльчыку**, **Мікалаю Шрымфу** за тое, што яны дапамаглі знайсці і адрамантаваць памяшканне для клуба, і **Антону Раманоўскаму** за дапамогу інвалідам у набыцці медыкаментаў і калясак.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ПЕРШАЯ ЛІГА

## За шэсць тураў да фініша засталося адно ачко перавагі

**30.09 Маладзечна – ЗЛіН (Гомель) 0:0**

**Галоўны арбітр** – Пятровіч (Мінск), 500 гледачоў

11 Сідарэнка (Шаўроў, 50) 6 Вострыкаў
10 Міхалёў (Макрыцкі, 59)
9 Тартоўскі 8 Вільтоўскі
7 Багайчук
3 Кабельскі (Дараховіч, 64)
4 Крывіцкі 2 Рагуновіч
5 Сысой
1 Рубацкі

З турнірнай табліцы бачна, што запісны аўтсайдэр ЗЛіН мае ажно трэці паказчык па прапушчаных галах. Гуляць у абароне гэта каманда ўмее, што і прадэманстравала ў справаздачнай сустрэчы. Ачкоў гамяльчане дагэтуль набралі мала, але такі недахоп некалькімі турамі раней узяўся выправіць вядомы трэнер **Уладзімір Яначкін**, які папрацаваў ужо ў вышэйшай лізе з "Нёманам" і "Гомелем".

Магчыма, маладзечанцы выйшлі на матч, думаючы, што супернік скарыцца без барацьбы. Найбольш запомніўся ў першым тайме моцны і дакладны далёкі ўдар некага з гасцей: **Рубацкі** з цяжкасцю дастаў мяч і толькі паўторным рухам накрыў яго. Гаспадары стварылі нямала вастрыні, але гэта былі, скажам так, паўмоманты. Двойчы небяспечна біў галавою **Багайчук**, тройчы патэнцыяльную пагрозу хавалі выпады **Сідарэнкі**, яшчэ часцей прыкладваўся да ўдару **Вострыкаў**. Два разы ў Аляксандра няблага атрымлівалася, і, калі б на шляху мяча не паўставалі спіны партнёраў, лік мог быць адкрыты.

Першыя пятнаццаць хвілін другога тайма пайшлі ў маладзечанцаў на тое, каб шляхам замен узмацніць атаку. Падумалася, што гэта можна было зрабіць у перапынку, аднак нападаючыя **Шаўроў** і **Макрыцкі**, якія выйшлі на замену, нейкага свежага струменя ў гульню не ўнеслі. Не дапамог і адыход ад камбінацыйнай гульні дзеля спробаў прымяніць "навал" у напрамку "слупа"-Шаўрова.

Цікавы футбол пачаўся недзе з 65-й хвіліны. Гаспадары паднялі хуткасці да тых межаў, якімі валодаюць, аднак супернік па-ранейшым спакойна адбіваўся (прычым выдатна дзейнічаў варатар), да таго ж, больш небяспечна ішоў у контраатакі. Мелі бела-зялёныя тры рэальныя галявыя сітуацыі, але не пашанцавала. **Вільтоўскі** падаваў справа – **Міхалёў** падрэзаў мяч галавою ў галкіпера. Вострыкаў увайшоў у штрафную, прабіў у абаронцу, мяч адскочыў да Шаўрова, Павел з 15 метраў не трапіў у свабодны кут. Пасля падачы вуглавога Шаўроў небяспечна прабіў галавою міма.

Некалькі слоў пра асобных гульцоў "Маладзечна". Крайнім абаронцам не ўдавалася абвастрыць гульню сваімі падключэннямі. Кабельскага пасля двух забітых ім галоў у ранейшых матчах цяпер трэнерам прыходзіцца замяняць па ходу гульні. Раней лепш дзейнічалі крайнія паўабаронцы. Зусім згубіўся ў другім крузе Міхалёў. Такое ўражанне, што не жадае браць на сябе лідэрскія функцыі Шаўроў.

Рагачоў-ДЮСШ-1 – Керамік 0:3, Лунінец – Нёман 2:0, Дынама-Юні – Хімік 0:1, Тарпеда – Палессе 4:0, Трактар – Орша 6:1, Вейна-Днепр – Свіслач-Дах 2:3.

| | Каманда | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Маладзечна | 24 | 17 | 5 | 2 | 56-11 | 56 |
| 2. | Лунінец | 24 | 17 | 4 | 3 | 44-11 | 55 |
| 3. | Граніт | 23 | 15 | 1 | 7 | 40-29 | 46 |
| 4. | Свіслач-Дах | 24 | 13 | 2 | 9 | 36-31 | 41 |
| 5. | Тарпеда | 24 | 12 | 5 | 7 | 41-28 | 41 |
| 6. | Керамік | 24 | 12 | 4 | 8 | 50-32 | 40 |
| 7. | Нёман | 24 | 12 | 4 | 8 | 40-27 | 40 |
| 8. | Орша | 24 | 10 | 6 | 8 | 36-34 | 36 |
| 9. | Зорка-ВА-БДУ | 23 | 10 | 6 | 7 | 36-28 | 36 |
| 10. | Рагачоў-ДЮСШ-1 | 24 | 8 | 9 | 7 | 34-32 | 33 |
| 11. | Дынама-Юні | 24 | 9 | 3 | 12 | 38-40 | 30 |
| 12. | Трактар | 24 | 8 | 4 | 12 | 36-37 | 28 |
| 13. | ЗЛіН | 24 | 6 | 7 | 11 | 15-20 | 25 |
| 14. | Хімік | 24 | 6 | 7 | 11 | 31-37 | 25 |
| 15. | Вейна-Днепр | 24 | 1 | 2 | 21 | 18-70 | 5 |
| 16. | Палессе | 24 | 0 | 1 | 23 | 12-96 | 1 |

**Бамбардзіры**: Курыловіч – 15; Вадз. Байко (абодва – Керамік), Таран (Тарпеда) – па 14; Правалінскі (Орша) – па 12...**Турчыновіч** – 9.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ДРУГАЯ ЛІГА

## 1 ачко ў 2 матчах

**01.10 Смаргонь – Водаканал-Транзіт (Брэст) 1:1 (1:1)**

**Галы**: (39); Чарнуха (43)

**Склад**: Пясецкі, Іваноў, Шагойка, Курак, Юркевіч, Ал. Канапелька (Апяцёнак, 82), Дукса (Шпакоўскі, 56), Чарнуха (Карабінскі, 67), Якубіцкі, Дзегілевіч (Шаблінскі, 77), Відук

Супрацоўнікі брэсцкага «Водаканала» паказалі ў Смаргоні сваё ўменне гуляць у футбол. Атрымалася роўная, жосткая, шчыльная гульня. Каманды не давалі адна адной спакойна прымаць мяч. Практычна не было галявых сітуацый. Лік госці адкрылі, пайшоўшы ў контратаку пасля таго, як нашы землякі спыніліся ў чаканні судзейскага свістка, палічыўшы, што супернік парушыў правілы. Хутка адыграліся. **Канапелька** зрабіў падачу з правага фланга. У падзенні галавою ў штрафной яе замкнуў **Чарнуха**.

**04.10 Вертыкаль (Калінкавічы) – Смаргонь 2:1 (0:0)**

**Галы**: (47), (80); Чарнуха (89).

**Склад**: Пясецкі, Іваноў, Шагойка, Курак, Юркевіч, Ал. Канапелька (Карабінскі, 73), Дукса, Чарнуха, Дзегілевіч, Селіванаў, Шпакоўскі (Шаблінскі,70).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ СТАТЫСТЫКА ПА «ЗАБУДОВЕ»

**Матчы ў чэмпіянаце:** Івашкевіч, Макрыцкі – па 20; Гулевіч, Рыгаровіч – па 18; Татун – 17; Антановіч, Дараховіч, Д. Мятліцкі, Садчанка – па 16; Відрук, Нядзелька, Чарнель – па 14; Казяк, Касцюкевіч – па 12; Буглак, Лявончык, Мароз, Смірноў – па 11; Балыкін, М. Мятліцкі – па 10; Млечка – 9; Абановіч – 6; Студэнт – 5; Лужынскі, Лукін – па 4; Міpановіч, Муравейнікаў, Філіпаў – па 2; Дзмітрачкоў, Дрозд, Каўтуноўскі, Тартоўскі, Фірсанаў – 1.

**Галы ў чэмпіянаце:** Макрыцкі – 6; Чарнель – 4; Гулевіч, Дараховіч – 3; Антановіч, Млечка, Татун, Філіпаў – па 2; Балыкін, Лукін, Лужынскі, Лявончык, Рыгаровіч – па 1.

**Матчы на Кубак:** Гулевіч, Дараховіч, Івашкевіч, Макрыцкі – па 3; Абановіч, Антановіч, Балыкін, Казяк, Касцюкевіч, Лявончык, Д. Мятліцкі, Нядзелька, Рыгаровіч, Смірноў, Татун – па 2; Буглак, Мароз, Млечка, Муравейнікаў, М. Мятліцкі, Рубацкі, Садчанка, Студэнт – па 1.

**Галы на Кубак:** Балыкін, Гулевіч, Казяк, Млечка – па1.

**Падрыхтаваў Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Удакладненне.**

У матчы "Забудова" – "Арбіта", які адбыўся 24 верасня, на 85-ай хвіліне **Дзмітрачкоў** замяніў Івашкевіча. Такім чынам, 15-цігадовы **Ягор** дэбютаваў у нацыянальным чэмпіянаце.

■ МІНІ-ФУТБОЛ

**30.09 Хемікс (Мінск) – Металург 9:6 (4:3)**

**Суддзі** – Місючэнка, Жукаў (абодва – Мінск)

**Галы**: Васіленка (3, 13, 40), Нясцюк (18, 40), Кадакоў (19), Мацюк (25), Шаўчук (31), Ванчукевіч (39); Снятко (7); Сіткевіч (7, 11), Гарнастаеў (36), Янель (37, 38)

**Склад**: Кіркіж (Бахур, 30); Максімаў, Сіткевіч, Снятко, Янель; Гарнастаеў, Гружэўскі, Казяк, Шаўчэнка; Агейчык, Макей

**Папярэджанне**: Сіткевіч

**Выдаленне**: Кіркіж (30 хвіліна)

Занятасць галоўнага трэнера **Сяргея Сафонава** і вядучых гульцоў "Металурга" ў нацыянальнай зборнай адбілася на плане падрыхтоўкі клуба да стартавага матча чэмпіянату. Праўда, гэткая ж сітуацыя і ў "Хемікса", і ў "Сімурга". Дарэчы, беларуская зборная правяла дзве сустрэчы ў Польшчы, якія завяршыліся з лікам 3:3 і 2:9 не на нашу карысць. У цэлым добра адгуляў **Кіркіж**, а вось кандыдаты **Янеля** і **Максімава**, па вялікім рахунку, пакуль не на належным узроўні, хаця Дзмітрый вызначыўся голам у першым матчы, а Сяргей – у другім.

Перашкодзіў нашым хлопцам як след падрыхтавацца да барацьбы з "Хеміксам" і перанос гэтага матча з нядзелі на суботу. Па-першае, **Кузняцоў** не паспеў вярнуцца з Масквы, дзе прыводзіў у парадак свае ранейшыя справы, па-другое, напярэдадні было ўшанаванне каманды ў Маладзечне.

Вялікая колькасць галоў тлумачыцца дрэннай гульнёй абодвух супернікаў у абароне. Калі нашы выйшлі наперад 3:1, то сталі дзейнічаць неяк несур'ёзна. Гаспадары павялі ў сваю чаргу 6:3, выкарыстаўшы непадрыхтаванасць маладзечанцаў да напружанай барацьбы і памылкі галкіпераў, якія даўно не дзейнічалі так слаба. "Металургу" ўдалося зраўняць лік (пераламіў сітуацыю **Гарнастаеў**, а потым два 10-метровыя рэалізаваў Янель), але адразу быў прапушчаны зусім неабавязковы гол. У канцоўцы больш удачлівыя былі мінчане.

У нас прыгожыя галы забілі **Снятко** (знаходзячыся на фланзе, сходу дакладна прабіў у далёкую дзевятку), **Сіткевіч** (са штрафнога метраў з 13-ці стрэліў пад перакладзіну) і Гарнастаеў (выйграў верхавую барацьбу і ўдарам галавою перакінуў мяч над варатаром).

Дарожнік – Энергетык 3:2, МАПІД – Віцязь 1:1, Сімург – РТІ-Заслаўе 9:0.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**На гэтым тыдні гуляюць**

**07.10, 14-00, Спарткомплекс ЗМК**
Матч адкрыцця сезона
Металург – Верас (Нясвіж)

**08.10 Вейна-Днепр (Магілёў) – Маладзечна**
+1=0-0 6-1. У першым крузе 6:1 (Міхалёў-2, Шаўроў-2, Крывіцкі, Турчыновіч) дома

**08.10 16-00 Смаргонь – Баранавічы**

■ КУБАК КРАІНЫ

## Нават адкрылі лік

**02.10 Славія (Мазыр) – Забудова 4:1 (2:1)**

**Галоўны арбітр** – Мацюшаў (Мінск)

**Галы**: Чалей (31, 63), Стрыпейкіс (40-пен), Карсакоў (47); Млечка (21)

**Склад**: Рубацкі, Муравейнікаў, Нядзелька, Гулевіч, Івашкевіч, Мятліцкі (Смірноў, 83), Садчанка, Лявончык (Рыгаровіч, 60), Дараховіч (Антановіч, 88), Макрыцкі, Млечка.

Чысцінцы насыцілі гульцамі цэнтр поля, і на першых хвілінах атакі гаспадароў вязлі ў гэтай тактычнай пабудове. За матч нашы землякі, якія справядліва вырашылі згуляць ад абароны, стварылі мала вострых момантаў. Найбольш спрыяльны з іх удалося рэалізаваць і такім чынам адкрыць лік. **Млечка**, прыняў пас ад **Макрыцкага** і нанес удар метраў з пятнаццаці ў верхні кут. Мяч ад штангі паляцеў у створ варот. На думку галоўнага трэнера "Забудовы" **Аляксандра Гармазы**, калі б удалося ў першым тайме захаваць пераможны лік, то каманда мела б шансы на спрыяльны канчатковы зыход. Што тычыцца класа, то перавага цяперашняга лідэра беларускага клубнага футбола ў рэшце рэшт і сказалася ў справаздачным матчы. Спачатку далі магчымасць **Чалею** прайсці з мячом метраў 35 і расстраляць вароты. Потым памыліўся абаронца і збіў у штрафной **Стрыпейкіса**, які сам рэалізаваў пенальці. Адразу пасля перапынку флангавы пас замкнуў галавой **Карсакоў**. Нарэшце вострыя кінжальныя перадачы ў цэнтры прывялі да яшчэ аднаго галявога моманту ў выкананні **Чалея**. Некалькі разоў каманду выратоўваў **Рубацкі**.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

